перанос гэтага пікета ў другое месца або ў іншы час ці дзень, але гарвыканкам гэтага не зрабіў.

Заяўнікамі пікетавання выступілі прадстаўнік праваабарончага цэнтра “Вясна” ў Брэсце Уладзімір Вялічкін, старшыня брэсцкай абласной арганізацыі Аб’яднанай Грамадзянскай партыі Уладзімір Вуек і старашыня брэсцкай абласной арганізацыі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) Ігар Маслоўскі.

Мерапрыемства планавалася правесці ў дазволеным уладамі месцы – парку воінаў-інтэрнацыяналістаў.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=1309

## Памерла аўтарка легендарных «Ручнікоў»



18 ліпеня памерла Вера Вярба — аўтарка легендарных «Ручнікоў». Было ёй 70 гадоў.

Сапраўднае імя Веры Вярбы — Гертруда Сакалова (дзявочае — Маркава). Яна нарадзілася 14 студзеня 1942 года ў вёсцы Высокі Гарадзец Талачынскага раёна. Дэбютавала летуценным і рамантычным зборнікам «Вочы вясны» ў 20 гадоў.

Гэтая, па словах Адама Глобуса, «эфектная» жанчына доўгі час адпрацавала ў часопісе «Беларусь». Яна не «мільгала» ў свецкай хроніцы, але пакінула пасля сябе цудоўныя вершы.

nn.by/?c=ar&i=76808

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад: 299 асобнікаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»







**Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны**

**№ 7 (ліпень), 2012**

# Мяжа



**Працоўныя “Граніту” проста намагаюцца абараніць свае правы**

**(Чытай на старонках 3-7)**

## ЗЬМЕСТ







## Актывісты прафсаюза РЭП скардзяцца ў суд на дыскрымінацыю

Прадстаўнікі Беларускага Прафаюза Радыёэлектроннай прамысловасці накіравалі скаргу ў Брэсцкі абласны суд.

Як паведаміў прававы інспектар прафсаюза Уладзімір Малей, 4 сябры прафсаюза - Зінаіда Міхнюк, Сяргей Вакуленка, Аляксандра Гурына і ён сам - не пажадалі мірыцца з дыскрымінацыяй па прафсаюзнай прыналежнасці і звярнуліся ў Брэсцкі абласны суд. Яны просяць лічыць незаконным і неабгрунтаваным рашэнне Прэзідыума Брэсцкага аблсавета і аблвыканкама ў частцы неўключэння ў склад акруговых выбарчых камісій. Просяць абавязаць прэзідыум прыняць новае рашэнне па стварэнні акруговых камісій, у якія былі вылучаны актывісты незалежнага прафсаюза, і уключыць іх у склад гэтых камісій.

Па словах Уладзіміра Малея, сябрам прафсаюза РЭП чамусьці не знайшлося ніводнага месца ў камісіях, у той час як прадстаўнікам дзяржаўнага прафсаюза адведзена ажно 15 месцаў. Такі падыход, у сваю чаргу, не выклікае даверу да працэсу фармавання акруговых выбарчых камісій.

spring96.org/be/news/54159

## Адмовілі ў правядзенні пікета “Свабоду палітзняволеным!”

У Брэсце забаранілі выказаць салідарнасць з лідарам праваабарончага цэнтра “Вясна” Алесем Бяляцкім і іншымі вязнямі сумлення. На запыт правесці пікетаванне 4 жніўня пад назваю “Свабоду палізняволеным!” ад брэсцкага гарадскога выканаўчага камітэта была атрымана адмова. Прычынаю стала адсутнасць спецыялізаваных дамоваў з шэрагам службаў і планаванне мерапрыемстваў да Дня дэсантніка і сіл спецыяльнага прызначэння.

Адзін з заяўнікаў, старшыня брэсцкай абласной арганізацыі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) Ігар Маслоўскі лічыць, што такі адказ парушае правы чалавека:

- Ёсць канстытуцыйнае права, права на мірныя сходы. І вось гэтае права ў нас вызначана ўсяго двума месцамі. Мы падалі заяўку на адно месца і атрымалі забарону. Гэта значыць, што ў гэты дзень мы як грамадзяне не можам рэалізаваць сваё канстытуцыйнае права. Дарэчы, гарвыканкам таксама меў права нас запрасіць і з намі абмеркаваць

у склад выбарчых камісій усіх узроўняў, абсалютна непрапарцыйнага доступу да дзяржаўных СМІ кандыдатаў ад апазіцыі і праўладных кандыдатаў, фальсіфікацыяў пры падліку галасоў. Малаверагодна, што нешта зменіцца зараз, і мая заяўка на правядзенне пікету "За сумленныя выбары без Лукашэнкі" ёсць толькі чарговым індыкатарам гатоўнасці ўладаў да фальсіфікацыі вынікаў галасавання падчас новай выбарчай кампаніі".

Як мяркуе Марат Несцярэнка, суд, адхіліўшы яго скаргу, у чарговы раз прыняў бок тых, хто парушае грамадзянскія правы, гарантаваныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

spring96.org/be/news/53896

## "Народныя абраннікі": адказнасць перад выбаршчыкамі адсутнічае

Не ўсе дэпутаты Брэсцкага гарсавету дакладна ведаюць сваю выбарчую акругу і не гатовыя распавесці пра графік сваіх справаздач. Такую выснову можна зрабіць паводле вынікаў зваротаў грамадскіх актывістаў гэтага абласнога цэнтру да мясцовых народных абраннікаў.

Найбольш красамоўны прыклад здарыўся з лістом жыхароў дома № 320 па вуліцы Маскоўскай на адрас дэпутата выбарчай акругі №25 Уладзіміра Марозава, у якім грамадзяне прасілі яго прадставіць справаздачу аб сваёй дзейнасці за апошні год. У сваю чаргу Марозаў адказаў, што згаданы дом да яго акругі не належыць. Між тым, пасля адпаведных удакладненняў хутка высветлілася, што дэпутат не меў рацыю. Як распавяла грамадская актывістка Ганна Канюс, "такі адказ засведчыў, што дэпутат не працуе на сваёй акрузе, а самі выбаршчыкі не могуць трапіць на прыём да яго, бо невядомы графік такіх сустрэч".

Падобныя звароты былі накіраваныя і іншым брэсцкім дэпутатам, але толькі палова з іх увогуле адрэагавала на заклік прадставіць справаздачу сваім выбаршчыкам. Пры гэтым адказы былі розныя: нехта паведамляў, што гатовы да сустрэч і абавязваўся нагадаць пра час і месца справаздачы праз аб'явы ў сродках масавай інфармацыі, іншыя накіроўвалі ініцыятарам зваротаў натуральныя адпіскі. Але, як нагадвае Ганна Канюс, згодна з беларускім заканадаўствам, дэпутат мясцовых саветаў павінен інфармаваць грамадзян пра графік сваіх справаздач не менш чым два разы на год.

spring96.org/be/news/53936





## Мы проста стараемся адстаяць свае правы

Роўна паўгода таму, 29 снежня, беларускае грамадства даведалася пра пратэст рабочых на прадпрыемстве па здабычы каменю "Граніт", што ў Мікашэвічах. 600 супрацоўнікаў, нязгодных з заробкамі і адносінамі да іх з боку начальства, выйшлі з дзяржаўнага прафсаюза і ўтварылі свой незалежны. Сітуацыя выклікала нервовую рэкцыю ўлады.

З-за пратэсту некалькі актывістаў пазбавіліся працы, на астатніх рабочых аказваецца ціск. Кіраўніцтва прадпрыемства розным чынам спрабуе ліквідаваць байкот. Камусьці прапаноўваюць пуцёўкі ў аздараўляльныя санаторыі, а кагосьці падкупляюць абяцаннямі кар'ернага росту. Нядаўна паднялі заробкі.

Старшыня "гранітаўскай" суполкі Алег Стахаевіч кажа, што ўсе ведаюць, чаму вырас заробак і чаму гатовыя раздаваць пасады, але змаганне працягнецца:

- Гэтыя паўгода мы прота стараемся адстаяць свае законныя інтарэсы, свае правы, дадзеныя нам Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Адміністрацыя навязвае нам барацьбу, правакуе на агрэсію.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=566

## Праваабаронцу выдалілі з суду па справе звольненага актывіста "Граніта"

3 ліпеня ў Лунінцы распачаўся судовы працэс паводле заявы намесніка старшыні суполкі незалежнага прафсаюза прадпрыемства "Граніт" Мікалая Карышава, які дамагаецца аднаўленя на працы.

Мікалай Карышаў спрабуе даказаць, што падпісаная дамова паміж ім і наймальнікам была складзена з парушэннем заканадаўства. Новы кантракт з прафсаюзным актывістам адміністрацыя прадпрыемства адмовілася падпісваць нібыта з-за вымоў, якія былі вынесены Карышаву цягам некалькіх дзён падчас праверкі (раней за сем гадоў працы на "Граніце" ніякіх заўваг рабочы не атрымоўваў).

Мікалай Карышаў выказаў недавер старшыні Лунінецкага раённага суду Васілю Бельскаму, які вядзе гэтую справу, бо менавіта згаданы суддзя раней не ўбачыў парушэнняў у звальненні кіраўніка незалежнай прафсаюзанай суполкі "Граніта" Алега Стахаевіча. Хадайніцтва аб замене суддзі было адхілена, а пазней Васіль Бельскі пагражаў штрафам і ўрэшце выдаліў з залы праваабаронцу Уладзіміра Малея (на фота), нібыта за парушэнне дысцыпліны ў часе судовага паседжання. Пазней

суддзя вымушаны быў запрасіць Малея на разгляд справы, бо той прадстаўляе інтарэсы заяўніка ў якасці прававога інспектара Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў.

Падчас паседжання з’явіліся новыя факты ў справе пра звальненне Карышава, таму судовае разбіральніцтва па аднаўленню яго на працы перанесена на 17 ліпеня.

spring96.org/be/news/53816

## Суд адмовіў прафсаюзнаму актывісту “Граніта” ў аднаўленні на працы

Намеснік старшыні суполкі незалежнага прафсаюзу прадпрыемства “Граніт” Мікалай Карышаў спрабаваў праз суд аспрэчыць факт свайго звальнення і дамагчыся выплаты грашовай кампенсацыі.

Аднак старшыня суду Лунінецкага раёна Васіль Бельскі, які асабіста разглядаў гэтую справу, не ўбачыў парушэнняў у тым, што з Карышавым не быў падоўжаны працоўны кантракт. Паводле высноваў суддзі, наймальнік меў для гэтага падставы, а пярэчанні прафсаюзнага актывіста пра парушэнні закзанадаўства пры падпісанні гэтага кантракту Васіль Бельскі хоць і прыняў да ўвагі, але паведаміў, што тэрмін для абскарджвання даўно мінуў.

Пасля такога выніку судовага паседжання Мікалай Карышаў збіраецца стаць на ўлік цэнтры занятасці і паспрабаваць аднавіць сваё месца працы, бо ягоная прафесія вельмі запатрабаваная: Мікалай працаваў у чыгуначным цэху пагрузкі драбільна-сартавальнага заводу РУВП “Граніт”.

Паплечнікі Карышава ўпэўненыя, што гісторыя яго звальнення (як і астатніх сяброў незалежнага прафсаюза) наўпрост звязаная з іх прафсаюзнай дзейнасцю.

spring96.org/be/news/54548

## Берасцейскі абласны суд не прызнае парушэнне правоў працоўных

Прадстаўнікі мікашэвіцкага прадпрыемства “Граніт” працягваюць змаганні за свае правы. Намеснік старшыні суполкі незалежнага прафсаюзу на ўказанай установе звярнуўся ў берасцейскі абласны суд.

Аднак той, 31 ліпеня, – не задаволіў скаргу актывіста. Рашэнне суда Лунінецкага раёну было пакінута бяз зменаў. З актывістам не быў





Бяляцкага ў адстойванні праў чалавека ў Беларусі.

- “Сардэчна віншую яго з гэтай узнагародай, якую ён заслужыў у асобай ступені. Імя Алеся Бяляцкага сімвалізуе асабістую прыстойнасць і самаахвярнасць у барацьбе за правы тых, хто падвяргаецца рэпрэсіям.” Ён спадзяецца на тое, што Алесь здолее гэтую прэмію атрымаць ужо ўвосень у Берліне.

Наталля Пінчук выказала ўдзячнасць фонду імя Генрыха Бёля за высокую ацэнку дзейнасці Алеся Бяляцкага ў справе абароны правоў чалавека. А таксама асабістую прызнальнасць амбасадару Крыстафу Вайлю за ягоную шчырую падрымку рэпрэсаванага праваабаронцы.

Бяляцкі асуджаны на 4 гады і 6 месяцаў зняволення. Адбывае пакаранне ў Бабруйскай калоніі №2.

racyja.eu/index.php?id=104&zoom=734

## Суд падтрымаў забарону пікета “За сумленныя выбары без Лукашэнкі”

6 ліпеня суд Ленінскага раёна Брэста не задаволіў скаргу актывіста Аб’яднанай грамадзянскай партыі Марата Несцярэнкі на забарону пікета “За сумленныя выбары без Лукашэнкі”.

Сябра АГП спрабаваў давесці, што рашэнне намесніка старшыні Брэсцкага гарвыканкама Вячаслава Хафізава пра адмову ў правядзенні пікета 15 траўня 2012 года ў дазволеным гарвыканкамам месцы неправамернае і парушае права на свабоду выказвання меркаванняў і права на мірныя сходы, гарантаваныя артыкуламі 33, 35 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і зафіксаваныя ў артыкулах 19 і 21 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Фармальна адмова ў правядзенні пікета была матываваная тым, што ў гэты ж час у заяўленым месцы, якім быў вызначаны стадыён “Лакаматыў”, будуць праходзіць “гульні па футболу”. Аднак Марат Несцярэнка заўважае, што адначасова гарвыканкам забараніў актывістам АГП правядзенне яшчэ двух пікетаў у іншых месцах на тэрыторыі Брэста.

“Палітычная падаплёка гэтых забаронаў цалкам відавочная, - адзначае Несцярэнка. – Распачалася кампанія па так званых “выбарах” у Палату прадстаўнікоў, і мы добра памятаем, з якімі грубымі парушэннямі заканадаўства праходзілі папярэднія выбары. Гэта тычыцца наўмыснага неўключэння прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў

дзе распытывалі аб іх удзеле ў апазіцыйных рухах. Уладзіслава ўчастковы выклікаў, каб “пазнаёміцца”. Яўгену ж патлумачылі, што непадалёк ад яго хаты хтосьці вывесіў банер апазіцыйнай накіраванасці і міліцыянты правяраюць ўсіх, хто жыве непадалёк.

“Нягледзячы ні на што, сябры берасцейскага БХД будуць дамагацца дазволу на праведзенне масавых шэсцяў. Мы ўлічым заўвагу ўладаў і ў наступны раз будзем падаваць заяўку на правядзенне ў іншым месцы” - тлумачыць сітуацыю каардынатар БХД па Берасцейшчыне Зміцер Шурхай.

Нагадаем, што гомельскія гарадскія ўлады не дазволілі правядзенне ў горадзе ніводнага з заяўленых актывістамі БХДі пікетаў для абмеркавання з насельніцтвам байкоту “парламенцкіх выбараў” у верасні гэтага году.

bchd.info/index.php?newsid=6760

## Алесь Бяляцкі ўзнагароджаны прэміяй Петры Келі



Палітычны зняволены кіраўнік праваабарончага цэнтру “Вясна” Алесь Бяляцкі ўзнагароджаны прэміяй Петры Келі, якую прысудзіў беларускаму праваабаронцу нямецкі фонд імя Генрыха Бёля. Пра гэта гаворыцца ў лісце былога амбасадара Германіі ў Беларусі Крыстафа Вайля да жонкі палітзняволенага Наталлі Пінчук. У лісце, падпісаным дыпламатам, гаворыца, што прэмія прысуджана ў знак прызнання мужнай, няспыннай дзейнасці Алеся





працягнуты працоўны кантракт, па яго меркаванню, з-за актыўнай грамадскай пазіцыі. Згодна пастановы суда першай і другой інстанцыі, правы працоўнага ў дадзеным выпадку не былі парушаныя, а звальненне было законна абгрунтавана. Мікалай Карышаў ня згодны з такім рашэннем і мае намер адстойвання сваіх правоў у вышэйшых судовых інстанцыях.

Берасцейскі праваабронца Ўладзімір Малей прытрымліваецца меркавання, у што ў такой сітуацыі адбываецца ні што іншае, як дыскрымінацыя па прафсаюзнай прыкмеце.

Прэс-служба брэсцкай арганізацыі праваабарончага цэнтру “Вясна”

## Звальненні па палітычным матывам на ‘’Граніце” сталі нормаю

Працоўныя мікашэвіцкага прадпрыемству “Граніт” працягваюць адстойваць свае правы праз суд.

Намеснік старшыні незалежнага прафсаюзу, што ўтварыўся на ўказанай установе дзякуючы намаганням ня згодных з кіраўніцтвам працоўных, Мікалай Карышаў звярнуўся ў суд Лунінецкага раёну берасцейскай вобласці. На прыканцы вясны гэтага году з працоўным не прагянулі кантракт на прадпрыемстве, што ён звязвае непасрэдна з сваёю актыўнаю грамадзянскаю пазіцыяю. У скарзе ў суд першай інстанцыі Мікалай Карышаў таксама выказаў незавальненні аб выплаце грашовай кампенсацыі. У сваю чаргу суд у дадзенай справе не ўбачыў палітычнага матыву і палічыў звальненне цалкам законным і абгрунатаваным. Такім чынам пададзеная скарга была пакінутая без задавальнення.

Звальненні такога кшталту на “Граніце” ўвайшлі ў сістэму. Некалькі месяцаў таму па палітычным матывам быў звольнены старшыня суполкі незалежнага прафсаюзу Алег Стахіевіч.

Прэс-служба брэсцкай арганізацыі праваабарончага цэнтру “Вясна”

## Актывісты «Граніта» маюць намер сустрэцца з кандыдатам у дэпутаты

Актывісты “гранітаўскай” суполкі незалежнага прафсаюза збіраюцца байкатаваць парламенцкія выбары, але маюць намер сустрэцца з кандыдатам у дэпутаты, каб агучыць свае прапановы і распавесці аб сітуацыі на “Граніце”. Канструктыўнага дыялогу з дзейсным “народным

абраннікам” не атрымалася.

Сябры незалежнага прафсаюза спадзяюцца, што магчымым кандыдатам можа стаць новы генеральны дырэктар “Граніта” Эдуард Гаўрылковіч, якога асабіста на пасаду ў чэрвені прызначыў Лукашэнка.

Старшыня суполкі незалежнага прафсаюза Алег Стахаевіч адзначыў, што па выбарах і кандыдату ілюзій не мае, але ёсць што сказаць напрамую:

– Мы ж выдатна разумеем, што яго проста прызначаць. Калі такая сустрэча будзе запланавана ад яго, мы вядома ж сходзім, задамо адпаведныя пытанні, запросім абавязкова СМІ, каб яны таксама папрысутнічаць і пaглядзелі ў яго сумленны вочы, калі яны такімі будуць. Мне яго шкада, таму што імкнуцца да такой пасады, і адначасова кіраваць, і ніякіх сваіх рашэнняў не прымаць, менавіта канструктыўных, а слухаць чыйсьці голас, гэта цяжка маральна.

Генеральны дырэктар “Граніта” Эдуард Гаўрылковіч ужо неаднаразова заяўляў для сродкаў масавай інфармацыі, што на прадпрыемстве няма ніякага бунту і ніхто амаль не ведае ніякага “незалежнага прафсаюза”, таму не разумее, аб чым ідзе справа.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=592

## Расія - адзінае месца куды імкнуцца працоўныя з Мікашэвіч

Звольненыя з прадпрыемства “Граніт” прафсаюзныя актывісты і рабочыя, якія самі пакінулі працу з-за малых заробкаў, з’язджаюць ва ўсходнюю суседку, каб пракаміць сям’ю.

“Людзей прывабліваюць грошы, якія за якасную працу плацяць у Расіі,” - кажа намеснік старшыні “гранітаўскай” суполкі незалежнага прафсаюзу Мікалай Карышаў. На яго думку, рабочыя вымушаныя пакідаць Беларусь, бо хочуць рэальна зарабляць, а не жыць ад капейкі да капейкі:

- Што чалавеку, асабліва беларусу, на сённяшні дзень патрэбна? Гэта нармальны заробак. Не 100 даляраў і не 200. За камунальныя зараз плацім 50 даляраў. Дзіцяці ў магазіне нічога не можам купіць. У Расіі плацяць сапраўды грошы, не смецце, а грошы: 1 000 ці 1 500 даляраў. Чалавек ведае, што заробіць гэтыя грошы і едзе туды свядома. Ён не прыходзіць сюды на працу, не глытае пыл і атрымлівае паўтара ці два мільёна рублёў.





гэта і дало плён. Дэпутат спачатку хаваўся, але калі пайшла інфармацыя ў СМІ, ён з’явіўся, і тое, што мы так хутка трапілі ў гарвыканкам на сустрэчу, – гэта яго заслуга. Я яму асабіста казала: “У мяне наказ ад людзей, каб аптэкі не было. Таму я адсюль не выйду без станоўчага для нас рашэння”. Як жа ім пасля казаць, што мы нічога не дабіліся?”

Парады

Сітуацый, падобных да апісанай, шмат, проста не ва ўсіх хапае цярпення і досведу адстойваць свае правы. З цярпеннем, бадай, нічым не дапаможаш, а вось некаторыя парады для атрымання досведу “стрэляныя вераб’і” з ініцыятыўнай групы даць могуць. Людміла Махначова вельмі раіць кожнаму дому выбраць сваю ініцыятыўную групу ці прынамсі аднаго прадстаўніка і накіраваць яго ў гарвыканкам для вывучэння дэтальнага плана забудовы горада. Гэты план звычайна не даводзіцца да ведама зацікаўленых людзей, хаця павінен. Затое ім актыўна прыкрываюцца пасля чыноўнікі: маўляў, усё законна, усё згодна з планам. Таму калі ў вас пад вокнамі ёсць кавалачак вольнай зямлі, лепш даведайцеся загадзя, які лёс яго чакае.

Калі ж праблемная сітуацыя ўжо ўзнікла, да яе вырашэння варта падысці сур’ёзна. Лепш, калі ў складзе ініцыятыўнай групы будуць людзі, якія добра ведаюць заканадаўства. У адваротным выпадку варта не пашкадаваць грошы і наняць адваката.

А яшчэ важна весці перапіску. Няхай і здаецца, што адпіскі нічога не значаць. Бо куды менш важаць вусныя адказы, абсалютна недаказальныя ў судзе.

www.bk-brest.by/ru/137/society/4039/

## Улады адмовілі берасцейскім актывістам БХД у правядзенні масавых шэсцяў

25 чэрвеня актывісты БХД падалі заяўку на правядзенне двух масавых шэсцяў: 10 ліпеня - Свабоду Паўлу Севярынцу - і 14 ліпеня - Свабоду палітвязням. Аднак, гарвыканкам адмовіў у правядзенні шэсцяў, спасылаючыся на тое, што побач з меркаваным месцам іх правядзення знаходзяцца расейскае і польскае консульствы. Праводзіць масавыя шэсці ў такіх месцах супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь, заявілі яны.

Разам з тым, двух актывістаў моладзевага крыла БХД - Яўгена Хазіяхметава і Уладзіслава Бароўскага выклікалі на размову ў міліцыю,

будаўніцтва на момант высвятлення спрэчкі прыпыніцца.

На наступны дзень будаўнікі зноў выйшлі на працу. Аднак праз 20 хвілін згарнуліся, таму што ініцыятыўная група адразу ж пазваніла дэпутату. У тую ж раніцу жыхары накіравалі новыя лісты з подпісамі ў ДАІ і пракуратуру Брэсцкай вобласці, а таксама ў Следчы камітэт.

Яшчэ праз некалькі дзён у гарвыканкаме адбылася сумесная сустрэча камісіі адказных за будоўлю асоб і ініцыятыўнай групы, якая асаблівых вынікаў не дала (Фёдар Петрусевіч назваў пасяджэнне балаганам). Чыноўнікі па-ранейшаму сцвярджалі, што ўсё законна, але ўсіх дакументаў не паказвалі і адмаўляліся здымаць копіі з іншых лістоў. Асноўны аргумент — гэта дакументы для ўнутранага карыстання.

У час сустрэчы ў гарвыканкаме на аб'ект прыехаў старшыня аблвыканкама Канстанцін Сумар, які і падпісаў інвестыцыйнае пагадненне з заказчыкам. Людзям, якія да яго падышлі, губернатар паабяцаў, што будоўлю спыняць і адновяць газон. Гэты візіт, на думку "сувораўцаў", і вырашыў справу.

Каментары

Мы сустрэліся з членамі ініцыятыўнай групы, каб зрабіць невялікае інтэрв'ю. Толькі рэалізаваць задуму аказалася цяжкавата, паколькі на некаторыя пытанні ў іх не было адзінадушнага меркавання. Аднак асобныя меркаванні падчас нашай размовы я ўсё ж чытачам прапаную.

Фёдар Петрусевіч, старшыня ініцыятыўнай групы: "Пасля прыезду губернатара пачалося самае цікавае: своеасаблівая рэкламная кампанія ў СМІ. Дэпутат і гарвыканкам аб'явілі, што хоць будоўля законная, але, улічваючы пажаданні людзей, будаваць аптэку не будуць. Быццам раней мы пра нязгоду не казалі і не галасавалі адзінагалосна супраць гэтага аб'екта ў прысутнасці намесніка старшыні гарвыканкама. Дэпутат, дарэчы, не зрабіў ніводнага дэпутацкага запыту, пра якія мы прасілі. Але мы лічым, што зямельная спрэчка да канца так і не вырашаная, і далей будзем патрабаваць, каб нам дакладна акрэслілі межы землекарыстання. Інакш заўтра на гэтае месца прыйдзе якое-небудзь казіно, і ўсё пачнецца па-новай".

Зінаіда Міхнюк, член ініцыятыўнай групы: "Сакрэт поспеху гэтай кампаніі ў згуртаванасці людзей. Яны выйшлі змагацца за сваё. Акрамя таго, у іх ужо быў вопыт змагання супраць вышкі мабільнай сувязі. Праца вялася вельмі вялікая, бо акрамя згаданай ініцыятыўнай групы была і іншая, якая рыхтавала аб'явы і расклейвала іх па пад'ездах. Усё разам





На прадпрыемстве "Граніт", што ў Мікашэвічах Брэсцкай вобласці, з канца вясны пачаўся недахоп працоўнай сілы, але гэта не перашкаджае кіраўніцтву завода звальняць нязгодных.

racyja.eu/index.php?id=105&zoom=989

## «Вертыкальшчыкі» вырашылі разабрацца з гастарбайтэрамі

Старшыня Драгічынскага райвыканкама Васіль Хвацік лічыць, што да тых, хто з-за цяжкага эканамічнага становішча ў Беларусі з'язджае на заробкі за межы краіны, павінна быць зменена стаўленне з боку дзяржавы.

Размаўляючы з прэсай напярэдадні Дня горада (гэты райцэнтр у Брэсцкай вобласці адзначае сваё 560-годдзе), кіраўнік Драгічынскай «вертыкалі» прызнаў, што з працоўных калектываў раёна працягваецца адток рабочых рук у суседнюю Расею. Прычым, звальняюцца і з'язджаюць на заробкі часцяком лепшыя прафесіяналы з будаўнічых арганізацый і дарожных прадпрыемстваў. Як паведамляе charter97.org, Васіль Хвацік прызнаў, што калі не плаціць людзям нармальную зарплату, то аднойчы наступіць момант, калі працаваць будзе няма каму. Аднак пасля гэтага мясцовы чыноўнік, па сутнасці справы, паставіў ультыматум беларускім «гастарбайтэрам». «Думаю, дзяржава павінна змяніць сваё стаўленне да такіх працоўным мігрантаў, - заявіў Хвацік. - Бо яны не плацяць падаткі ў бюджэт, не папаўняюць фонд сацыяльнай абароны, але пры гэтым і самі, і іх сем'і карыстаюцца ўсімі сацыяльнымі выгодамі на радзіме, дзяржаўнымі датацыямі на паслугі ЖКГ, многія пабудавалі жыллё за льготныя крэдыты».

Раней падобныя заявы гучалі з вуснаў Аляксандра Лукашэнкі, але свайго далейшага развіцця яны не атрымалі. Цяпер ініцыятыву падхапілі мясцовыя начальнікі, спрабуючы хоць такім спосабам утрымаць кадры на радзіме. Прытым, што аплата іх працы тут і за мяжой адрозніваецца ў разы. Да таго ж Драгічынскі раён лічыцца аграрным і наяўныя прамысловыя прадпрыемствы можна пералічыць па пальцах.

Дапамагчы змяніць становішча спраў маглі б замежныя інвестыцыі, але, па словах Васіля Хваціка, бельгійскі бок адмовіўся ад свайго праекта па мадэрнізацыі мясцовага трактарарэмонтнага завода. Застаецца надзея на кітайцаў, якія зацікавіліся Антопальскай ватна-прадзільнай фабрыкай і завезлі туды абсталявання на 1 мільён еўра. А яшчэ старшыня

Драгічынскага райвыканкама заклікаў мясцовых жыхароў піць толькі мінеральную ваду «Фрост», паколькі гэтае прадпрыемства з'яўляецца галоўнай крыніцай падатковых паступленняў у раённы бюджэт.

charter97.org/be/news/2012/7/27/55858/

## Аптэкі не будзе. Жыхары брэсцкага мікраараёна Кавалёва святкуюць перамогу

На месцы аб'екта пакуль яшчэ стаіць металічная агароджа, але ўсё выдае на тое, што будоўлі настае канец. Катлаван засыпаны, зямля разраўняная, частка будаўнічых матэрыялаў звезеная. Аднак жыхары дамоў па вуліцы Суворава радуюцца даволі асцярожна: акрамя заяў у СМІ, ніякіх іншых папяровых сведчанняў прынятага гар- ці аблвыканкамам рашэння яны не маюць.




Нагадаем, што людзі, якія пражываюць у дамах па вуліцы Суворава, выступілі з пратэстам супраць будаўніцтва аптэкі ля дома №77. На сваю карысць яны прыводзілі шмат слушных аргументаў. Двухпавярховы аб'ект забіраў у іх і так невялікую тэрыторыю землекарыстання, рабіў аварыйнае перакрыжаванне яшчэ больш небяспечным, ды і проста чацвёртая аптэка месцічам была непатрэбная. Яны развярнулі супраць будаўніцтва цэлую кампанію, якая, як бачым, мела поспех. Зараз, калі





старшыня аблвыканкама Канстанцін Сумар даў загад зрабіць усё, як было, і нават паставіць лаўкі, можна зрабіць невялікую рэфлексію гэтай "супрацьаптэчнай кампаніі".

Дзеянні

Першае, што зрабілі неабыякавыя жыхары вуліцы Суворава, — гэта правялі своеасаблівы сход праз пару дзён пасля з'яўлення металічнай агароджы, на якім вырашылі не пускаць будаўнікоў на аб'ект. Гэта яны і выканалі на наступны рабочы дзень, нягледзячы на дождж. Пасля запрасілі сродкі масавай інфармацыі, каб пра іх праблему пачула больш людзей. У гэты ж дзень на будоўлю прыехаў прадстаўнік заказчыка і даў распараджэнне на часовае спыненне работ. Выкананне гэтага загада пільныя жыхары выйшлі кантраляваць на наступную раніцу.

Праз два дні ля аб'екта адбыўся шматлюдны сход з нагоды сустрэчы з прадстаўнікамі гарвыканкама. Сход рабіўся "пад пратакол": быў выбраны старшыня і сакратар, падрыхтаваныя пытанні для галасавання. 323 чалавекі выказалі нязгоду з рашэннем гарвыканкама будаваць аптэку ў тарцы дома №77 па вуліцы Суворава, а таксама ініцыявалі працэдуру адклікання дэпутата Сяргея Пухальскага, які не ішоў на кантакт па гэтай праблеме. Акрамя таго, быў выказаны недавер гарадскому Савету дэпутатаў. Да гэтага часу лісты з подпісамі і патрабаваннямі спыніць будаўніцтва ўжо былі адпраўленыя ў аблвыканкам, Савет дэпутатаў, а таксама Адміністрацыю прэзідэнта.

Гарвыканкам, нягледзячы на пратэстны настрой людзей, што было відавочна на сходзе 27 чэрвеня, аддаў распараджэнне працягваць будаўніцтва пад наглядам міліцыі. Ахоўнікі парадку казалі, што маюць загад выклікаць спецназ у выпадку, калі будаўнікам будуць чыніць перашкоды ў выкананні работ. Людзі на ражон не палезлі (яны ўвогуле ўвесь час дзейнічалі выключна законнымі метадамі), але актывізавалі працу са СМІ і пачалі рыхтаваць лісты ў Камітэт дзяржкантролю Брэсцкай вобласці і Савет Міністраў РБ, каб там праверылі інвестыцыйны праект на адпаведнасць заканадаўству.

5 ліпеня ля будоўлі прайшоў новы сход. На гэты раз на яго прыйшоў мясцовы дэпутат: ён прапанаваў стварыць ініцыятыўную групу па вырашэнні зямельнай спрэчкі. Утварылася група з 7 чалавек, якую ўзначаліў старшыня першага сходу Фёдар Петрусевіч. У склад групы ўвайшлі і два дэпутаты – папярэдні (Уладзімір Цеплякоў) і сучасны (Сяргей Пухальскі). Дзейны "народны абраннік" паабяцаў, што